№ 37 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопіс

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 37 (233). Год III. Вільня, 7 мая 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

## 6 мая.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага і нямецкага Насьледніка:* На полі баталіі у Фляндрыі—ўдачные разведкі. Мейсцовая напасць ворагаў у ваколіцах Лёкр адбіта у досьвітках. Ад часу да часу узьнімаліся вострые артылерыйскіе бітвы ў ваколіцах Байель У дзень Кэмэль быў пад сільным абстрэлам. На паўночным беразі Ліс, на каналі Ля бассэ і на паадзінокіх адрэзках наабапал Соммы баевая чыннасць у вечары узмацавалася. Разведкі і наступленьні на варожые лініі пры Ангар і Брімон далі палонных.

---

КІЕЎ. Дырэктар расейскага банку дзеля загранічнай таргоўлі ў Кіеві, Добрый, арэштаваны скінутым украінскім урадам, гпынуўся ў Харкаве. Яго знайшлі тамака нямецкіе военные ўласьці і вярнулі ў Кіеў. Арэшт Добрага, вёўшага экономічные перэговоры з нямецкімі уласьцямі, меў на мэці запужаць усіх, хто хацеў паддзержываць экономічные зносіны с цэнтральнымі дзержавамі. Арэшт Добрага ясна паказвае, што нельга было ускладаць надзеі на сумленнае правядзеньне ў жыцьцё экономічных умоў, падпісаных старым урадам Украіны.

ВЕНА. С Кіева наказываюць, што Скоропадзкаму ўдалося утварыць габінэт, карыстаючый з даверыя грамадзянства. Васіленко заявіў, што гэта будзе міністэрства дзела. Глаўнай задачай яго будзе нацыональнае адраджэньне і зямельная рэформа. Будуць неадкладаючы ўчынены крокі дзеля падгатоўкі выбараў у парлямэнт.

Нямецкі генэрал Рэнэр заявіў, што паварот рады да ўласьці — немагчымы. Урад Скоропадзкага хочэ супрацоўніцтва соцыалістаў.

КІЕЎ. Усеукранскі конгрэс земляробаў прыняў 29 красавіка рэзолюцію, жадаючы неадкладных крокаў дзеля адбудовы сельскай гаспадаркі. Рэзолюція называе скінуты ўрад няздольным да працы і пазбаўленым павагі і кажэ, што выбары ў устаноўчы сэйм, адбытые ў бурным часе грамадзкай вайны, не выяўляюць волі народу.

ВЕНА. З веры годных крыніц наказываюць, што часць чорнаморскага флота, выехаўшага нет ведама куды, вярнулася ў Одэссу і пакарылася новаму ураду.

ТОКІО (В.Т.Б.-Рэўтэр). Расейскіе ўласьці арэштавалі ў Курску японскага віцэ-консула і галаву японскага таварыства, вінавацючы іх у шпіёнстве.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. На усходнім беразі Іордана ўсе атакі Англічан адбіты. Узяты палонные, некалькі кулемётаў і панцырны самаход.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. Турэцкая дэлегація выехала ў Батум.

БЭРЛІН. Маршалак французскага парляманту ў апублікованай справаздачы кажэ, што Францію жажэ выміраньне нацыі. На 2 прыпадкі сьмерці прыходзіцца толькі 1 прыпадак урадзін. «Што нам гэта паможэ, калі мы абаронімся ад страшэннага наступленьня і праславім Францію на ўвесь сьвет, але пасьля пабеды акажэмся скінутымі з нашага сусьветнага палажэньня і ўчынім самагубства?»

БЭРЛІН. На прывітальную тэлеграму нямецкага торговага конгрэсу імператар паміж іншым адказаў:

„Ахвары меньнем і крывёй не павінны быць дарэмны. На гэта маюць роўнае права як гаспадары, так і іх работнікі.“

Гіндэнбург адказаў:

„Калі ўвесь нямецкі народ будзе стаяць разам, дык мы здабудзем такі мір, каторы дасьць новы расцьвет таргоўлі і прамышлднасьці.“

БЭРЛІН. У часі апошняга наступленьня мы захапілі ваенные паперы, ў каторых гаворыцца, што начальнікі павінны зьвертаць увагу сваіх салдатаў, што нельга спадзевацца хуткай помачы амэрыканцаў.

БАЗЭЛЬ. Новы прэзыдэнт Португаліі зьвярнуўся да саюзьнікаў с цыркулярнай нотай у справе ўчасьця ў вайне португальскіх войск. Ад пачатку студня на заходнім фронці не прыбывало новых португальскіх войск.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Як блага асьвядомлэн амэрыканскі народ аб ваенных здарэньнях, відаць са знойдзенага у аднаго палоннага пісьма з 2 марца, ў якім гаворыцца дасло́ўна:

„Сягоньняшніе газэты наказываюць, што англічане ўзялі ў палон нямецкага насьледніка і 27.000 салдатаў.“

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Рэўтэр кажэ, што Зээбрюгэ зачынено ад мора, і што нямецкіе падводные лодкі не маюць магчымасьці выхадзіць з Гэльголяндзкай затокі. З асьвядомленай крыніцы наказываюць, што гэтые весткі нязгодлівы с праўдай. Зносіны падводных лодак з морэм зусім свабодны.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Кароль назначыў фэльдмаршалка Фрэнча лёрдам-намесьнікам Ірляндзіі, а Эдварда Шорта — статс-сэкрэтаром скарбу Ірляндзіі.

БЭРЛІН. **Урадова.** У паўночных водах ізноў затоплено 12.000 т.

БЭРЛІН. **Урадова.** 2.V. У паўночных водах затоплено ізноў 19.000 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У Ірляндзкім моры і ля заходняга узьбярэжжа Англіі нашы падводные лодкі ізноў затапілі 37.000 тонн.

ВЕНА (В.Т.Б). На ўсенькім італьянскім фронці ад Юдікарыі да Адрыі значна узмацавалася баевая чыннасць.

ВЕНА (В.Т.Б.). 5.V. Артылерыйскіе бітвы на ўсенькім палудзенна-заходнім фронці трываюць далей.

РЫМ (Стэфані). Чэскіе і словацкіе войскі, організаваные ў Італіі, высланы ўжо на італьянскі ваенны тэатр.

---

# Незалежная Беларусь.

+ Дэлегаты Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, пасланые ў Кіеў дзеля перэгавораў з украінскім урадам, падалі народнаму міністру загранічных спраў Украінскай Народнай Рэспублікі гэткую заяву:

„Мы маемо ведамасьці, што ў межах Украінскай Народнай Рэспублікі утворэн корпус польскіх войск чыслом 15.000 душ. Ня лічучы сябе ў праве цікавіцца пытаньнем, якіе мэты мае гэта форміроўка, мы ня можэм не звярнуць увагі на той факт, што вельмі магчыма адпраўка паменёнага польскага корпуса ў межы Беларускай Народнай Рэспублікі (у Магілёўшчыну). Адпраўка гэта тым больш падобна да веры, што ў межах Магілёўскай губэрні знаходзіцца цяпер 1-шы корпус польскіх войск пад камандай генэрала Довбор-Мусьніцкага. Дзеля таго, што гэная бытнасць становіць страшэнны ціжар для насяленьня краю, і прымаючы пад увагу, што быцьцё польскіх войск у межах Беларускай Народнай Рэспублікі ёсць рэзультат прыпадковых акалічнасьцей і ў гэты момэнт ня можэ быць нічым апраўдано,—наш урад чыніць крокі, каб паменёные часьці былі магчыма хутчэй выведзены з Беларусі ў Польшчу, або распушчэны. Перш, чым будзе развязано пытаньне аб бытнасьці 1-га корпуса, у адпраўцы новых польскіх форміровак з меж Украінскай Народнай Рэспублікі ў Беларусь наш народ бачыць акт непрыхільнасьці і абіды для яго нацыональнай годнасьці. З гэтай прычыны маемо чэсць выказаць Вам, пане міністру загранічных спраў Украінскай Народнай Рэспублікі, нашу просьбу ўвайсьці у зносіны с камандай новасформаванага польскага корпуса у справе задач, якіх ён мае даходзіць, і ў кожным здарэньні выдаць загад, каб ні ў якім прыпадку не была дапушчэна адпраўка яго ў межы Беларускай Народнай Рэспублікі“.

---

+ Народны Сэкрэтарыат Беларускай Народнай Рэспублікі, разгледзіўшы рэфэрат старшыні свайго, Язэпа Варонкі, аб устанаўленьні *дзержаўнай печаці* Рэспублікі, аднадушна прыняў прэдлажэньне дакладчыка і зацьвярдзіў рысунак печаці, на якім паказана печаць беларуск.-літ. князя Міндаўча с пачатку XIII сталецьця (1242—1263). У сярэдзіне печаці—рысунак «Пагоні» на выпуклым квадратным орнамэнці са стара-беларускім узорам па бакох. Гунька на кані—у тры зубцы, а ня круглая. Навакол «Пагоні» ўкруг надпіс у стылю летапісей: «Боларуская Народная Рэспубліка».

Асобная камісія пры Народным Сэкрэтарыаце занімаецца цяпер справай аб устанаўленьні дзержаўнага штандару Рэспублікі.

+ Народны Сэкрэтарыат Беларускай Народнай Рэспублікі даручыў вядомаму знаўцу беларушчыны, прафэсару Украінскага Унівэрсытэту, М. Довнар-Запольскаму, магчыма хутчэйшае улажэньне спісу прафэсароў дзеля адкрыцьця ў Менску *гасударственага Беларускага Унівэрсытэту.* Прафэсар ужо апрацаваў падробны даклад аб гэтай справе і гэтымі днямі прыежджае ў Менск дзеля нарады з Народным Сэкрэтарыатам. Як наказывае праф. Довнар-Запольскі, заняць катэдры ў Беларускім Унівэрсытэці згодзіліся выдатные акадэмікі і прафэсары быўшых расейскіх унівэрсытэтаў у Кіеві, Варшаве, Дорпаце, а такжэ маскоўскіе і пецярбурскіе прафэсары.

---

+ Паводлуг думкі аднаго выдатнага беларускага палітычнага дзеяча, ў Менску будзе адкрыта асобная школа—*Беларуская Грамадзка-Навуковая Кольлегія,* каторая мае на мэці прыгатаваць дазнаных і сьвядомых у беларускіх справах працаўнікоў дзеля кіраваньня ладжэнымі беларускімі грамадзкімі і адміністрацыйнымі установамі. Поўны курс будзе трываць 2 месяцы. На першы курс будуць прынімацца асобы (бяз рожніцы пола), якіе скончылі прынамсі 6 класаў б. расейскіх сярэдніх школ. Плата за навуку за ўвесь курс—200 рублёў. Навука будзе адбывацца паводлуг спэцыяльнай сыстэмы (гутаркі і рэпэтыціі). Прайшоўшым курс навукі с пазваленьня Народнага Сэкрэтарыату будуць даваць атэстаты, каторые давацімуць некаторые правы і прывілеі пры паступленьні на службу ў урадовых установах Рэспублікі.

---

+ Адкрытые паводлуг думкі беларускай падкамісіі дзеля народнай прасьветы пры менскай сталічнай думе *Курсы Беларусазнаўства* (Захараўская вул. 43) развіваюцца вельмі ўдачна. На курсы запісалося ахвотнікаў шмат больш, чым можна было спадзевацца. У чысьле лектароў — выдатные беларускіе палітычные і культурные дзеячы, як А. Смоліч (народны сэкрэтар асьветы), Я. Варонка (старшыня Народнага Сэкрэтарыату), Я. Лёсік (рэдактар газэты «Вольная Беларусь»), прафэсар Масоніус, Ст. Ленкоўскі, Кодіс, Косьцевіч, Аўсянік ды іншые. Слухачы — самые рознародные: тут і людзі ўжо паджылые з унівэрсытэцкімі значкамі, і малаграматные дзяцюкі, і студэнты б. расейскіх вышэйшых школ, і гімназісты, і т. д. Паводлуг нацыональнасьці перэважываюць беларусы, а за імі йдуць па парадку: жыды, вялікарусы, палякі і украінцы.

